ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 42—43 2 лістапада 1995 г.

(2444—2445) Выдаецца з 1955 г. Цана 800 рублёў.

## "МЫ НЕ МОЖАМ ПАГАДЗІЦЦА З ТЫМІ, ХТО СТАВІЦЬ ПАД СУМНЕННЕ РОЛЮ ААН У БУДУЧЫМ СВЕЦЕ"

**ВЫСТУПЛЕННЕ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ А. ЛУКАШЭНКІ НА СПЕЦЫЯЛЬНЫМ УРАЧЫСТЫМ ПАСЯДЖЭННІ ГЕНЕРАЛЬНАЙ АСАМБЛЕІ ААН, ПРЫСВЕЧАНЫМ 50-Й ГАДАВІНЕ АРГАНІЗАЦЫІ АБ'ЯДНАНЫХ НАЦЫЙ**

Паважаны Пан Старшыня,
Паважаныя дэлегаты,
Дамы і панове!

Я вітаю вас ад імя Рэспублікі Беларусь -- дзяржавы, якая, нягледзячы на тое, што ўсяго чатыры гады як стала незалежнай, тым не менш уваходзіць у лік краін -- заснавальніц ААН.

Беларускі народ унёс дастойны ўклад у перамогу над фашызмам. Апынуўшыся ў самым цэнтры сусветнага пажару, наша рэспубліка страціла звыш чвэрці насельніцтва, але не пакарылася фашысцкай тыраніі.

Ідэя стварэння арганізацыі, здольнай забяспечыць бяспеку ўсіх народаў, выспела ў горне другой сусветнай вайны. Праз паўстагоддзя мы без усякіх сумненняў можам сказаць, што заснаванне ААН было сапраўды гістарычным рашэннем.

Прадухіленне ядзернай катастрофы, крушэнне каланіяльнай сістэмы, ліквідацыя апартэіду, небывалы ўзлёт чалавечага генію ў навуцы і тэхніцы -- усё гэта было дасягнута ў значнай меры дзякуючы арганізацыі, пяцідзесяцігоддзе якой мы адзначаем.

Але Аб'яднаныя Нацыі зробяць сёння правільна, калі будуць думаць не столькі аб тым, што зроблена, колькі аб тым, што трэба будзе зрабіць.

На жаль, на парозе трэцяга тысячагоддзя свет усё яшчэ абцяжараны грузам праблем, характэрных для мінулага: войны і ўзброеныя канфлікты ў розных рэгіёнах, тэрарызм і іншыя віды злачыннасці, экалагічныя катастрофы, беднасць і го[illegible] многае іншае пагражаюць дучыні чалавецтва.

Толькі ААН -- універсальная арганізацыя, якая ўлічвае інтарэсы ўсіх народаў Зямлі, здольная аб'яднаць намаг[illegible] супольніцтва дзяржаў у вы[illegible]шэнні гэтых праблем. Мы не зможам пагадзіцца з тымі, хто ставіць пад сумненне ролю ААН у будучым свеце.

Я, малады лідэр маладой дзяржавы, не прымаю саму думку аб магчымай смерці ААН, аб якой сёння тут гаварылі.

Калі б мы гэта дапусцілі, то гэта было б злачынствам з боку нашага пакалення лідэраў перад тымі, хто 50 гадоў таму, перамогшы фашызм, стварыў гэты унікальны механізм забеспячэння міру.

Да таго ж я лічу, што для чалавечага розуму, які зрабіў столькі вялікіх адкрыццяў, пытанне аб тым, як зрабіць ААН больш эфектыўнай і як знайсці для гэтага грошы, не з'яўляецца невырашальнай задачай.

(Заканчэнне на 3-й стар.).



**70-ты СЕЗОН ВІЦЕБСКАГА ТЭАТРА ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА**



**Славуты Віцебскі дзяржаўны акадэмічны драматычны тэатр імя Якуба Коласа адкрыў свой 70-ты юбілейны сезон. Разам з артыстамі Даўгаўпілскага драматычнага тэатра коласаўцы паказалі прэм'еру "Сямёра прасцякоў у гасцях у Несцеркі". Гэты спектакль створаны па матывах творчасці Яніса Райніса -- вядомага латышскага паэта, вялікага сябра Беларусі.**

**НА ЗДЫМКУ: сярод артыстаў галоўны рэжысёр тэатра Валерый МАСЛЮК.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

## НА БЕЛАРУСІ ЗНОЎ АДЗНАЧАЮЦЬ ДЗЯРЖАЎНАЕ СВЯТА — ЧАРГОВУЮ ГАДАВІНУ КАСТРЫЧНІЦКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ

### ХТО ВІНАВАТЫ?

Падзеі апошніх гадоў прымушаюць задумацца не толькі пра дзень сённяшні, але і пра дзень учарашні. Сёння мы ўсё больш аналізуем пражытыя гады, пераконваемся ў тым, што гісторыя савецкага і нават постсавецкага перыяду ў многім была скажонай і мае патрэбу ў новым, глыбокім і непрадузятым аналізе. У гэтым плане не з'яўляецца выключэннем і Кастрычніцкі пераварот.

Беларусь (як, зрэшты, і іншыя краіны СНД) -- краіна кантрастаў і парадоксаў. У нас альбо хваляць, альбо крычаць: "Далоў!" У гэтым мы асабліва дасягнулі поспеху ў наш змрочны час, калі ўзнялася магутная хваля бяздумнага крытыканства, самабічавання і проціборства. Знішчаюцца помнікі, мяняюцца назвы гарадоў, плошчаў і вуліц, перакрэсліваюцца цэлыя старонкі айчыннай гісторыі. Паступова мы ўпадаем у стан гістарычнага бяспамяцтва, трапляем у становішча Іванаў без роду і племені. Падсякаючы свае гістарычныя карані, мы забываем простую ісціну: у каго няма мінулага -- у таго няма і будучыні.

Але на галоўнае пытанне аб тым, чаму бальшавікі перамаглі ў барацьбе за ўладу ў Петраградзе ў 1917 годзе, нельга да гэтага часу даць адназначнага адказу...

Сёння ўсё большая колькасць гісторыкаў прыходзіць да высновы, што ў Кастрычніку 1917 года ў Расіі перамагла не сацыялістычная, а сацыяльная рэвалюцыя ўсходняга тыпу. Яна была накіравана супраць зжыўшага сябе азіяцкага феадалізму і разам з тым супраць прыватнаўласніцкага капіталізму і была заклікана расчысціць дарогу для грамадскай вытворчасці на падставе дзяржаўнай уласнасці.

І хаця бальшавікі памыляліся ў вызначэнні характару Кастрычніцкай рэвалюцыі, называючы яе сацыялістычнай, яны не змаглі высунуць такія тактычныя і стратэгічныя ўстаноўкі, якія супадалі б з патрэбнасцямі рэвалюцыі азіяцкага тыпу. Гэта была масавая рэвалюцыя, але ніяк не путч і не пераварот. Масы бачылі ў ёй выратаванне, адзіна магчымае выйсце з тупіка, у які завёў царскі, а затым Часовы ўрад.

Краіне пагражала ўсеагульная крывавая анархія, якая вяла да немінучага распаду. Бальшавікі змаглі накіраваць рэвалюцыйную энергію мас у патрэбнае рэчышчы, надалі барацьбе арганізаваны характар. Інакш рэвалюцыя магла б пачацца стыхійна, незалежна ад бальшавікоў ці якой-небудзь іншай партыі. Менавіта працоўныя Расіі пад кіраўніцтвам бальшавікоў, здзейсніўшы рэвалюцыю, далі мір народам, зямлю сялянам, уладу Саветам, права на самавызначэнне нацыям.

Аднак што тычыцца сацыялістычных мэтаў -- ажыццяўленне дэмакратычных пераўтварэнняў грамадства, расшырэнне правоў і свабод грамадзян, вырашэнне сацыяльных праблем, -- то яны дасягнуты не былі. Адразу ж пасля рэвалюцыі краіна сутыкнулася з самымі цяжкімі праблемамі: як ва ўмовах адсталай эканомікі і адсутнасці рэвалюцыйнай сітуацыі на Захадзе будаваць сацыялістычнае грамадства?

Разлік на мірнае развіццё рэвалюцыі, на фарміраванне рынарных адносін быў сарваны грамадзянскай вайной. У краіне была ўведзена палітыка ваеннага камунізму. Пачаўся белы і чырвоны тэрор. Усё ішло па законах ваеннага часу і класавай барацьбы.

(Працяг на 3-й стар.).

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ · ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ · ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

## ЗАЯВА МІНІСТЭРСТВА ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Як паведамлялася раней, 12 верасня гэтага года ў паветранай прасторы Рэспублікі Беларусь адбылося авіяцыйнае здарэнне, якое забрала жыцці двух грамадзян ЗША -- Дж. Сцюарта-Джэрвіса і А.Фрэнкеля.**

**У сваім асабістым лісце прэзідэнту ЗША Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь выказаў шкадаванне ў сувязі з адбыўшымся інцыдэнтам, а таксама спачуванні сем'ям і сваякам загінуўшых.**

**Для поўнага і ўсебаковага вывучэння абставінаў здарэння ўказам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь была ўтворана дзяржаўная камісія. Актыўны ўдзел у расследаванні прычын здарэння прынялі незалежныя міжнародныя авіяцыйныя эксперты ЗША і Германіі, якія былі запрошаны беларускім бокам. Урад Беларусі забяспечыў міжнародным экспертам поўны доступ да ўсіх матэрыялаў і дакументаў, якія датычацца гэтага здарэння.**

**Па факту авіяцыйнага здарэння заведзена крымінальная справа. Папярэдняе расследаванне абставінаў здарэння з паветраным шарам завершана, і зараз ідзе праца над канчатковым дакументам аб яго прычынах, які будзе падрыхтаваны ў поўнай адпаведнасці з дзеючымі нормамі і правіламі Міжнароднай арганізацыі грамадзянскай авіяцыі.**

**Урад Рэспублікі Беларусь зацікаўлены ў атрыманні аб'ектыўных і непрадузятых вынікаў расследавання, гатовы да правядзення на адпаведным этапе сумеснага пасяджэння дзяржаўнай і міжнароднай камісій экспертаў і мае намер з даверам паставіцца да высноў незалежных міжнародных экспертаў. Беларускі бок выказвае зацікаўленасць у супрацоўніцтве з ЗША па распрацоўцы мераў у мэтах прадухілення інцыдэнтаў з неапазнанымі паветранымі аб'ектамі.**

*20 кастрычніка 1995 года.*

*РЭЗАЛЮЦЫЯ ЕЎРАПАРЛАМЕНТА*

## СВАБОДНАМУ ПРАФСАЮЗУ — СВАБОДУ

**У Вярхоўны Савет Беларусі паступіла рэзалюцыя Еўрапарламента, у якой асуджаюцца дзеянні беларускіх уладаў у адносінах да Свабоднага прафсаюза рэспублікі.**

**Паводле звестак БелаПАН, у рэзалюцыі, ... нават насці, выказваецца шкадаванне і абурэнне ... сувязі з ушчамленнем правоў прафсаюзаў у Рэспубліцы Беларусь, а таксама ўтрымліваецца заклік да ўладаў рэспублікі дзейнічаць у поўнай адпаведнасці з канвенцыямі Міжнароднай арганізацыі працы, якія Беларусь у свой час падпісала.**

**Гэтая рэзалюцыя накіравана таксама ў Міжнародную канфедэрацыю свабодных прафсаюзаў, Сусветную канфедэрацыю працы і Міжнародную арганізацыю працы.**

*СІТУАЦЫЯ*

## ВЫГАНЯЮЦЬ КСЯНДЗА

**У каталіцкіх прыходах на тэрыторыі Ашмянскага раёна Гродзенскай вобласці склалася напрoстая абстаноўка.**

**Па рашэнню органаў мясцовай улады выдвараны з Беларусі ксяндзы Гуроўскі і Немец, якія праводзілі службу ў касцёлах без адпаведнага дазволу. Дарэчы, адбылося гэта толькі пасля таго, як ксёндз аднаго з каталіцкіх прыходаў, пан Вісінскі, скампраметаваў сябе перад вернікамі.**

*ПАМЯЦЬ АБ Ф. ДАСТАЕЎСКІМ*



**Хто не ведае, што карані вялікага рускага пісьменніка Фёдара Дастаеўскага -- у Беларусі! На месцы яго радавога маёнтка цяпер стаіць вялікая палеская вёска Дастоева Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Імя Фёдара Дастаеўскага носіць і мясцовая школа. У двары школы адкрыты помнік вялікаму пісьменніку. Выканалі яго маладыя беларускія скульптары -- І. Данільчанка і Г. Мурамцаў.**

**НА ЗДЫМКУ:** помнік пісьменніку Фёдару Дастаеўскаму ў двары Дастоеўскай сярэдняй школы.

*КАДРЫ СУВЯЗІСТАЎ*



**У лістападзе 1945 года ў Пінску быў адкрыты Беларускі электратэхнікум сувязі, які потым быў пераведзены ў Віцебск. З 1993 года тэхнікум стаў філіялам вышэйшага каледжа сувязі Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь. Каледж рыхтуе высокакваліфікаваныя кадры для дзяржавы.**

**НА ЗДЫМКУ: студэнтка каледжа Ганна ...ЕКША -- будучы электрамеханік сувязі.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

ОРДЭНАМ Маці будуць узнагароджвацца жанчыны, якія нарадзілі і выхавалі пяць і больш дзяцей. Указам ад 19 кастрычніка Прэзідэнт Беларусі ... Лукашэнка зацвердзіў інструкцыю аб пар... прадстаўлення шматдзетных маці да ўзнагароджання ордэнам Маці.

ІДЭЯ "круглага стала" з рознымі палітычнымі партыямі, грамадскімі арганізацыямі і прафсаюзамі, падданая А. Лукашэнкам, з яго ж ініцыятывы пацішку гасне. У правядзенні "круглага стала" няма патрэбы, паколькі гэта не выклікае цікавасці "шырокіх мас". Так заявіў памочнік Прэзідэнта С. Посахаў.

СТАРШЫНЯ Беларускага народнага фронту Зянон Пазьняк вырашыў балаціравацца ў Вярхоўны Савет дзяржавы ў Смаргоні. Летам 1994 года, падчас прэзідэнцкіх выбараў, менавіта тут З. Пазьняк набраў 38 працэнтаў галасоў -- удвая больш, чым кожны з яго сапернікаў: Вячаслаў Кебіч, Аляксандр Лукашэнка, Станіслаў Шушкевіч.

ТРЭЦІ энергаблок Ігналінскай АЭС, магчыма, будзе разам з Літвой будаваць і Беларусь. Прапановы такія ўжо ёсць. Літоўскі ўрад прыняў рашэнне аб паступовым вывадзе з эксплуатацыі 1-га і 2-га энергаблокаў АЭС у наступным стагоддзі па меры вычэрпвання іх рэсурсаў.

ПРАВАДЗЕЙНЫМ членам Нью-Йоркскай акадэміі навук абраны Юрый Плескачэўскі -- дырэктар Інстытута механікі палімерных сістэм АН Беларусі. Ён аўтар 166 навуковых прац, у тым ліку 5 манаграфій. Адна з іх выдадзена ў ЗША. Ю. Плескачэўскі мае 77 вынаходстваў і 6 патэнтаў.

ПРЭМ'ЕРАЙ спектакля паводле п'есы А. Дударава "Купала" адзначыў сваё 50-годдзе Брэсцкі тэатр драмы і музыкі. Сёлета ён аб'ядноўся з гарадскім сімфанічным аркестрам. Нядаўна закончылася рэстаўрацыя будынка тэатра. У творчай скарбонцы Брэсцкага тэатра драмы і музыкі каля 400 арыгінальных пастановак.

*НЕЗАЛЕЖНАЯ ПРЭСА*

## НЕ ДРУКУЮЦЬ І НЕ РАСПАЎСЮДЖВАЮЦЬ

**25 кастрычніка незалежныя газеты "Народная воля", "Имя" і "Белорусская деловая газета" чарговы раз адчулі пільную ўвагу да сябе з боку выканаўчай улады.**

**Рэдакцыі "Народнай волі" паведамлена, што друкарня "Чырвоная зорка" паліграфкамбіната імя Якуба Коласа, дзе яна знайшла прытулак пасля таго, як яе выгналі з Дома друку, вымушана скасаваць дагавор на друкаванне. Прадаўжэнне кантракта магчыма толькі пасля ўзгаднення з Галоўным упраўленнем грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта.**

**Як паведаміла газета "Звязда", "Белсаюздрук" абвясціў, што спыняе распаўсюджванне гэтых трох газет.**

**Тое, што робяць чыноўнікі ў дачыненні да незалежнай прэсы, -- не на карысць Прэзідэнту Аляксандру Лукашэнку, -- каменціруе гэтую падзею "Звязда". Наадварот, гэтая дыскрымінацыя свабодных выданняў дыскрэдытуе беларускага лідэра ў вачах сусветнай супольнасці, а ўрэшце -- не дазваляе прылічыць Беларусь да ліку дэмакратычных дзяржаў.**

*ТВАР МЕСЯЦА*

## НЕ ТРЭБА НАМ У КНІГУ РЭКОРДАЎ ГІНЕСА

**Мінуў кастрычнік. Што ў ім было адметнага, якім ён запомніўся, разважае віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі, акадэмік Радзім ГАРЭЦКІ.**

-- Дазвольце напачатку ўзгадаць пра вельмі важную і цікавую для мяне вераснёўскую падзею -- кангрэс нашага Пэн-цэнтра, у якім прымаў удзел і я. Тады ўручаліся прэміі імя Алеся Адамовіча, а ў вёсцы Глушы на магіле пісьменніка быў нарэшце адкрыты помнік.

Але звернемся да кастрычніка. Першае, што я адзначыў бы, -- чацвёрты з'езд таварыства беларускай мовы, у якім давялося прымаць удзел. Прыемна, што ён усё ж такі адбыўся, але выступленні на ім былі, зразумела, сумнымі. Добра вядома: зараз ідзе сапраўдны наступ на беларускую мову. На жаль, паўсюль на Беларусі літаральна гвалтоўна зачыняюцца беларускамоўныя дзіцячыя садзікі і школы.

На з'ездзе прыемнае ўражанне зрабіў старшыня Вярхоўнага Савета Мечаслаў Грыб. Ён, у прыватнасці, сказаў, што шмат год размаўляў на рускай мове, але, калі стаў кіраўніком парламента, перайшоў на беларускую і лічыць гэта не толькі неабходным, але проста натуральным. У пэўным сэнсе здзівіў прадстаўнік камуністычнай партыі Шчукін (дарэчы, выбраны дэпутатам новага Вярхоўнага Савета), які размаўляў па-руску, але таксама выказаўся за неабходнасць шырокага ўжывання беларускай мовы ў школах і г.д. І, безумоўна, з вялікай цікавасцю ўсе слухалі Ніла Гілевіча. Практычна ва ўсіх прамовах гучаў вялікі сум і боль за нашу Беларусь, нашу мову. Ды і як інакш, калі першая асоба ў дзяржаве фактычна выступае супраць сваёй мовы. З-за гэтага ў Беларусі ўжо з'явіліся падставы нават трапіць у кнігу рэкордаў Гінеса, бо наўрад ці дзе яшчэ знойдзецца такі феномен. Я, напрыклад, не ведаю іншых прыкладаў, дзе кіраўнік дзяржавы, калі гаворыць пра мову сваёй краіны, пра мову сваёй нацыі, то толькі са здзекам. Усё гэта, безумоўна, не дадае прэстыжу беларускай дзяржаве. Як гэтага не разумеюць нашы кіраўнікі, не разумею ўжо я. Мне даводзілася бачыць за межамі, нават і ў той жа Расіі, што за такое стаўленне да свайго, нацыянальнага, нас проста перастаюць паважаць. Іншы раз сорам і сказаць, адкуль ты.

Што яшчэ было цікавага? На мой погляд, адметнай з'явай можна назваць устаноўчы сход Беларускага хельсінкскага камітэта. Гэта не палітычная арганізацыя, а грамадская. Але яе галоўная мэта -- абарона правоў чалавека, любога чалавека, якога незаслужана пакрыўдзілі, што, на жаль, для Беларусі не рэдкасць.

І яшчэ мне хацелася б адзначыць, што на кастрычнік прыпала цэлая нізка юбілеяў. Тут і 25-годдзе універсітэта культуры, дзе рыхтуюць вельмі шырокі спектр работнікаў культуры. І пяцідзесяцігоддзе Акадэміі мастацтваў, раней гэта быў тэатральна-мастацкі інстытут.

Потым мне падаецца вельмі цікавым нядаўняе адкрыццё ў Траецкім прадмесці ў Мінску выставы "Жанчыны -- дзеячы беларускай літаратуры". Выстава невялікая, але вельмі грунтоўная, добра зробленая. Сярод герань не толькі пісьменніцы, але і ўвогуле выдатныя беларускія жанчыны -- Ларыса Геніюш, Стэфанія Станюта, Ларыса Александроўская, Алена Васілевіч, Паўліна Мядзёлка, Уладзіслава Луцэвіч...

Ну і яшчэ адзін юбілей -- 50-годдзе ААН. У Мінску ў оперным тэатры беларуская грамадскасць таксама адзначала гэтую падзею, сярод выступаючых быў і наш прэм'ер М. Чыгір, а таксама прадстаўнік ААН у Беларусі. Урэшце, роля ААН як надзвычай уплывовай установы ў справе ўмацавання міру на нашай планеце была, ёсць і будзе вельмі значнай.

У палітычнай сферы не магу абысці ўвагай дзейнасць Канстытуцыйнага суда, які разгледзеў некаторыя прэзідэнцкія ўказы, асобныя пункты іх былі прызнаны не адпавядаючымі ўжо прынятым законам. Канстытуцыйны суд разгледзеў таксама пытанне аб легітымнасці Вярхоўнага Савета дванаццатага склікання і прызнаў яго сённяшні статус легітымным, што, на маю думку, патрабавала ад суддзяў не толькі высокага прафесіяналізму, але і проста чалавечай мужнасці, бо добра вядома, як негатыўна ставіцца да старога парламента кіраўнік дзяржавы, ад якога ў сённяшняй Беларусі залежыць, калі не ўсё, дык амаль усё. Дарэчы, не засталася не заўважанай сродкамі масавай інфармацыі нечаканая паездка прэзідэнта ў Расію і на Украіну, а апошнім часам шмат пытанняў выклікае дзіўны візіт аднаго з прэзідэнцкіх папплечнікаў У. Замяталіна ў Ірак. Вопытам дзяліцца ездзіў да Садама Хусейна ці што? Знайшлі з кім сябраваць...

А ўвогуле, у жыцці як у жыцці. Ёсць і добрае, і дрэннае. Вось толькі, каб нам першага пабольш, а апошняга -- паменш. А то апошнім часам усё наадварот адбываецца.

# "МЫ НЕ МОЖАМ ПАГАДЗІЦЦА З ТЫМ, ХТО СТАВІЦЬ ПАД СУМНЕННЕ РОЛЮ ААН У БУДУЧЫМ СВЕЦЕ"

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Арганізацыя паказала сваю жыццяздольнасць ва ўмовах "халоднай вайны", блокавага процістаяння. Цяпер яна павінна пацвердзіць эфектыўнасць сваёй дзейнасці ў мнагаполюсным свеце.

Галоўнае -- не дапусціць новага расколу свету. У сувязі з гэтым мы лічым, што расшырэнне НАТО тоіць у сабе непрадказальныя вынікі для будучыні Еўропы.

Беларусь, размешчаная геаграфічна ў цэнтры кантынента, як ужо не раз бывала ў нашай гісторыі, першай пацерпіць ад новай канфрантацыі.

Я цвёрда перакананы, што на парозе трэцяга тысячагоддзя трэба думаць не аб расшырэнні ваенна-палітычных саюзаў, не аб размяшчэнні ядзернай зброі і не аб павелічэнні ваенных арсеналаў. Наадварот, мы павінны імкнуцца ліквідаваць саму магчымасць узнікнення войнаў, паменшыць або наогул знішчыць запасы ядзернай зброі.

Мы можам гаварыць аб гэтым на поўны голас, таму што Беларусь -- першая ў гісторыі дзяржава, якая добраахвотна і без усякіх умоў адмовілася ад ядзернай зброі.

На жаль, мы апынуліся ў парадаксальнай сітуацыі, калі наша прыхільнасць да ідэй раззбраення стварыла для краіны сур'ёзныя эканамічныя цяжкасці. Мы вымушаны адцягваць сродкі, прадугледжаныя для выканання сацыяльных праграм, на знішчэнне зброі, якая назапашвалася на нашай тэрыторыі ў час блокавага процістаяння.

Я ўпэўнены, што ў кіраўнікоў дзяржаў -- удзельніц "халоднай вайны" возьме верх пачуццё справядлівасці і яны дапамогуць нам у вырашэнні гэтага пытання.

Я сёння ў першую чаргу выдзеліў бы паглыбленне сацыяльна-эканамічных праблем у розных рэгіёнах і раскол свету на бедныя і багатыя краіны.

Вельмі востры сацыяльна-эканамічны крызіс ахапіў цяпер новыя незалежныя дзяржавы.

Разрыў па-жывому адносінаў паміж народамі, якія складваліся вякамі, не прынёс і не мог прынесці нікому карысці. Таму не трэба здзіўляцца і тым больш апасацца інтэграцыйных працэсаў, што намячаюцца цяпер. Зблізкэнне брацкіх народаў -- гэта аб'яднанне намаганняў для вырашэння агульных праблем, а не пагроза чыёй бы там ні было бяспецы і інтарэсам.

Я ўпэўнены, што нашы народы непазбежна пераадолеюць існуючыя сацыяльна-эканамічныя цяжкасці.

Упэўнены, што вырашэнне сацыяльна-эканамічных праблем у Беларусі і іншых краінах, якія ўваходзілі ў састаў Савецкага Саюза, будзе ў інтарэсах усі[illegible] аб'яднаных нацый. Мір і бясп[illegible]ка на планеце немагчымыя бе[illegible] эканамічнага дабрабыту і сацыяльнай стабільнасці ў новых незалежных дзяржавах.

Ёсць яшчэ адна растучая, у літаральным сэнсе смяротная пагроза бяспецы нашых народаў. Гэта пагаршэнне асяроддзя пражывання. Беларускі народ больш за ўсіх пацярпеў ад найбуйнейшай экалагічнай катастрофы нашага часу -- чарнобыльскай аварыі. Звыш 70 працэнтаў радыеактыўных ападкаў выпала на нашу тэрыторыю. Краіна вымушана адцягваць звыш 20 працэнтаў свайго бюджэту на пераадоленне вынікаў гэтай катастрофы.

Я спадзяюся, што Аб'яднаныя Нацыі не пакінуць народы, якія пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы, адзін на адзін з іх бядой.

Новыя пагрозы, з якімі сутыкаецца чалавецтва ў канцы XX стагоддзя, народы не змогуць прадухіліць, калі не адмовяцца ад нацыянальнага эгаізму.

Буйныя дзяржавы павінны думаць не аб дыктаце, не аб падпарадкаванні народаў свайму ўплыву, а аб лідэрстве ў вырашэнні праблем, якія стаяць перад чалавецтвам. І найлепшым інструментам узгаднення інтарэсаў усіх народаў застаецца Арганізацыя Аб'яднаных Нацый.

Мая краіна будзе рабіць усё неабходнае для таго, каб гэта арганізацыя апраўдала тыя надзеі, якія ўскладаюць на яе народы.

Дзякуй за ўвагу.

## З ПЛЫНІ ЖЫЦЦЯ



**Гэтага хлопца ў інваліднай калясцы можна сустрэць на цэнтральных вуліцах Гомеля толькі ў нядзелю. Прыязджае ён з Дунаўскага дома інвалідаў, што размешчаны непадалёку ад абласнога цэнтра. Закупляе цыгарэты, жавальную гумку і яшчэ тое-сёе. Потым усё гэта прадае ў сябе ў доме інвалідаў. Ад гэтага перапродажу мае нейкія даходы.**

**Уладзіміру 22 гады. У васемнаццаць ён ужо актыўна займаўся "бізнесам" -- дастаўкай партый цыгарэт з Масквы ў Гомель. Розніца ў іх кошце прыносіла прыбытак. У адной з такіх паездак яго выкінулі з тамбура на поўным ходу поезда. Валодзя застаўся жывым, але пасля шматлікіх аперацый яму ампутавалі абедзве нагі і правую руку. Вядома, усё магло скласціся інакш у яго маладым [illegible]цці, калі б застаўся ён у роднай вёсцы на Лоеўшчыне, не[illegible]нуўся да "лёгкага" заработку. Але лёс распарадзіўся так трагічна. У вачах Валодзі застыў боль і безнадзейнасць.**

# НА БЕЛАРУСІ ЗНОЎ АДЗНАЧАЮЦЬ ДЗЯРЖАЎНАЕ СВЯТА — ЧАРГОВУЮ ГАДАВІНУ КАСТРЫЧНІЦКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).

Але вось ужо ў ходзе разгортвання грамадзянскай вайны Савецкая ўлада зрабіла яшчэ адну са сваіх самых цяжкіх памылак. Рэвалюцыя раптам змяніла напрамак, узяўшы курс на насілле ў адносінах да сваіх абаронцаў -- сялянаў, вымятаючы ў іх па харчразвёрстцы часам увесь хлеб. Рэвалюцыя нібыта спатыкнулася на хуткім ходу, пакінуўшы сябе без апоры, адмовіўшыся ад сістэмы кааперацыі і рынку.

Вось тут і адбылася новая памылка, звязаная з першай: замест таго каб пачаць з раздзяржаўлення і перадачы ўласнасці калектывам, рэвалюцыя, адкінуўшы гэтыя першапачатковыя намеры, пайшла па лініі татальнага адзяржаўлення.

Прасвятленне прыйшло ўжо пасля таго, як справа дайшла да Кранштацкага мяцяжу і да паўстання Антонава на Тамбоўшчыне...

У кожнага народа свой шлях. Расія некалі таксама ішла сваім шляхам, нарошчваючы духоўную магутнасць і скарачаючы адставанне ад заходніх краін у эканамічным развіцці. І хаця яна адставала па агульнай пісьменнасці насельніцтва ад перадавых краін, затое ў яе быў багаты банк ідэй.

За гады рэвалюцыі, грамадзянскай вайны, за гады барацьбы з "ворагамі народа" і іншадумствам мы страцілі свой генафонд, інтэлектуальныя сілы нацыі. Не было каму генерыраваць ідэі і накіроўваць іх на зададзеную мэту. У гэтым адна з прычын усеагульнага крызісу, што ўзнік у нашай краіне.

Мне здаецца ў прынцыпе няправільным уяўленне аб гістарычным шляху як аб тунелі, у якім можна рухацца толькі ў зададзеным напрамку. Да таго ж заўсёды адвольныя і пункты ўваходу ў тунель, што ўказваюцца тымі ці іншымі аўтарамі. Калі нават паверыць, што Кастрычніцкая рэвалюцыя (пераварот) з непазбежнасцю прывяла да наступных злачынстваў супраць народа, то застаецца пытанне: а дзе пачатак таго тунеля, які падвёў краіну да кастрычніка 1917-га?

Можа быць, у масавых расстрэлах і вісельнях 1905-га? А што прывяло да гэтай першай рускай рэвалюцыі? Вызваленне сялян без зямлі ў 1861-м? Але чаму тады не ўспомніць аб запрыгоньванні сялян у XVI стагоддзі? Пры тунельнай філасофіі гісторыі віноўнікам сталінскіх злачынстваў можна ўявіць і Барыса Гадунова.

На самай справе гістарычны шлях пралягае не ў тунелі, а ў лесе з мноствам пераплеценых сцяжынак. У жывой гісторыі сітуацыя выбару паўтараецца неаднаразова. Не раз прадастаўляецца магчымасць сысці з любой сцежкі, бывае і магчымасць вярнуцца да яе. Пасля Кастрычніка ў першыя ж дні меўся выбар паміж курсам Леніна на аднапартыйнасць і пазіцыяй Нагіна, Мілюціна і іншых бальшавікоў, якія выйшлі са складу першага ўрада ў знак пратэсту супраць манаполіі партыі.

Непасрэдна на парозе сацыялізму мільгануў яго чалавечы твар. На жаль, мільгануў і схаваўся, але быў жа шанс. Затым быў выбар паміж Брэсцкім мірам і вайной з Германіяй, які пры іншым зыходзе мог ператварыць кастрычніцкі пераварот у кароткатэрміновы эпізод. Потым быў выбар паміж працягам харчразвёрсткі і харчпадаткам. Пазней паміж сталінскім раскулачваннем і бухарынскім "урастаннем" селяніна ў сацыялізм.

Не на кожнай развілцы рабілася памылка -- інакш як бы праіснаваў гэты лад больш сямі дзесяцігоддзяў? Няправільны выбар пераважыў у выніку, але гэта быў выбар не аднаго дня і не аднаго чалавека. Трагічны ў цэлым шлях краіны не быў фатальна прадвызначаны пераваротам 25 кастрычніка 1917 года. Трагедыю разыгралі пакаленні.

Наўрад ці можна згадзіцца з пошлай прамудрасцю, якая заключаецца ў тым, што нашым правадырам няўдалы народ дастаўся: не мог больш разумна ўладкаваць свой лёс. Пры такім падыходзе давялося б зняць адказнасць з правадыроў. Не больш разумная і проста небяспечная ідэя аб тым, быццам уся бяда ў няўдалых правадырах, якія дасталіся ў мінулым народу. Тады кожны з нас зняў бы адказнасць не толькі за мінулае, але і будучыню.

Адны па-ранейшаму называюць 7 лістапада днём рэвалюцыйнага свята, іншыя -- днём памяці, народнага смутку. Але як бы хто ні называў, рэвалюцыя -- гэта гісторыя нашай Радзімы. А Радзіму, як і бацькоў, не выбіраюць. Усё, што было ў ёй добрага і светлага, а таксама дрэннага, ганебнага, часам трагічнага, -- гэта наша гісторыя. І адракацца, каяцца, глыбока смуткаваць -- дарэмны занятак. Лепш пастарацца зразумець прычыны таго, што здарылася з намі ў гады рэвалюцыі і пасля яе і што можа служыць грамадству цяпер, у няпросты, пераломны перыяд гісторыі. Ад вялікага ж да смешнага ўсяго адзін крок.

## ЯК ГЭТА БЫЛО?

**Са зводкі штаба галоўказаха аб настроях часцей войск заходняга фронту**

*22 кастрычніка 1917 года*

Нервовы настрой нарастае з кожным днём, парушэнні дысцыпліны захопліваюць новыя часці. Прапаганда бальшавікоў пераважае і мае поспех. Масы спрашчаюць лозунгі, робячы з іх разбуральныя вывады, без усякай думкі аб уплыве здзяйсняемага на лёсы радзімы і рэвалюцыі. Ёсць пагрозы пакінуць фронт, калі мір не будзе заключаны ў бліжэйшы час.

4-я, 5-я і 16-я роты грэнадзёрскага палка адмовіліся заняць указаную пазіцыю. 712-ты полк заявіў, што ён не можа быць расфарміраваны да Устаноўчага сходу. 11-ты, 25-ты Туркестанскія палкі адмовіліся змяняцца...

Ад'язджаючымі салдатамі 97-га і 98-га палкоў на станцыі Лунінец разгромлены карпусны суд. 20-га палка палкавы камітэт дазволіў самавольную рэквізіцыю. Заслаўскага палка 1-я рота не дапусціла правядзення дазнання членам палкавога камітэта. П'яны натоўп салдат абозу армейскага кіравання збіў прачак і члена армейскага камітэта Усерасійскага Саюза гарадоў. Сяляне і салдаты ў вёсцы Ярэмічы разбілі тытунёвыя крамы.

Нянавісць да афіцэраў расце ў сувязі з распаўсюджваннем перакананяя, што афіцэры зацягваюць вайну.

**Камісарзах Жданаў.**

**Адозва петраградскага ваенна-рэвалюцыйнага камітэта аб зверржэнні Часовага ўрада**

*25 кастрычніка 1917 года*

Да грамадзянаў Расіі!

Часовы ўрад звергнуты. Дзяржаўная ўлада перайшла ў рукі органа Петраградскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў -- Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта, што стаіць на чале петраградскага пралетарыяту і гарнізона.

Справа, за якую змагаўся народ: неадкладная прапанова дэмакратычнага міру, адмена памешчыцкай уласнасці на зямлю, рабочы кантроль над вытворчасцю, стварэнне Савецкага ўрада, гэта справа забяспечана.

Няхай жыве рэвалюцыя рабочых, салдат і сялян!

**Ваенна-рэвалюцыйны камітэт пры Петраградскім Савеце рабочых і салдацкіх дэпутатаў.**

**Загад N 1 выканкома Мінскага Савета аб пераходзе усёй улады ў рукі Саветаў**

*25 кастрычніка 1917 года*

**Да насельніцтва горада Мінска і яго наваколляў**

Улада ў Петраградзе перайшла ў рукі Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў. Увесь петраградскі гарнізон, Балтыйскі флот і іншыя воінскія часці прызналі новую ўладу...

У Мінску ўлада перайшла ў рукі Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў, які звярнуўся да ўсіх рэвалюцыйных арганізацый і палітычных партый з прапановай неадкладна пачаць арганізацыю часовай рэвалюцыйнай улады на месцах.

Аб'яўляючы аб падзеях, Мінскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў даводзіць да ведама ўсіх грамадзян, што ім прыняты самыя рашучыя меры да аховы рэвалюцыйнага парадку і ўстанаўлення належнай дысцыпліны паўсюль. Устаноўлена рэвалюцыйная цэнзура над усімі газетамі, якія выходзяць у Мінску і якія атрымліваюць тут, для папярэджання распаўсюджвання чутак, што хвалююць насельніцтва.

**Выканаўчы камітэт Мінскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў.**

**Ігар КУЗНЯЦОЎ.**

(Заканчэнне будзе).

## ПАКУЛЬ ПАЛІТЫКІ СПРАЧАЮЦЦА, ЭКАНАМІСТЫ ПРАГНАЗУЮЦЬ, А ЛЮДЗІ СПРАВЫ ПРАЦУЮЦЬ...

# ГАРАНТЫЯ НАДЗЕЙНАСЦІ — ФІКО

**ФІНАНСАВАЯ ІНВЕСТЫЦЫЙНАЯ КАМПАНІЯ ФІКО ПРАЦУЕ Ў ГАЛІНЕ ФІНАНСАВЫХ ПАСЛУГ ЧАЦВЁРТЫ ГОД. НА БЕЛАРУСІ СЯРОД АНАЛАГІЧНЫХ КАМПАНІЙ ФІКО КАНТРАЛЮЕ СЕГМЕНТ РЫНКУ, РОЎНЫ 15--20 ПРАЦЭНТАМ СЯРОД БАНКАЎ І ФІНАНСАВЫХ КАМПАНІЙ 1,5--3 ПРАЦЭНТАМ. РАСКАЗВАЕ ГЕНЕРАЛЬНЫ ДЫРЭКТАР ФІКО НАТАЛЛЯ ШАЎКО.**



Мы даўно марылі аб тым, каб працаваць на рынку каштоўных папер, займацца буйнымі фондавымі аперацыямі. Асноўная стратэгія была такая -- не чакаць, пакуль дзяржава пачне ствараць рынак, а пачаць рабіць гэта самім. У выніку ў 1991 годзе і з'явілася наша ФІКО -- прыватная фірма, заснавальнікі якой -- чатыры фізічныя асобы. Пачалі з прыватызацыі, дасягнулі пэўных поспехаў...

На сённяшні дзень ФІКО -- шматгаліновы кансорцыум арганізацый і прадпрыемстваў, якія ажыццяўляюць фондавыя і банкаўскія аперацыі на валютным рынку, аперацыі з нерухомасцю. Мы аказваем міжнародныя фінансавыя, патэнтныя, кансалтынгавыя, аналітычныя, адукацыйныя, камп'ютэрныя паслугі. Працуе ў нас больш за 200 кваліфікаваных работнікаў, для кансультацый запрашаем беларускіх і замежных экспертаў вышэйшай катэгорыі. Мы арыентаваліся на моладзь, сярэдні ўзрост працуючых -- 24 гады. Усе нашы спецыялісты маюць вузкую спецыялізацыю, выдатна валодаюць пытаннямі аўдыта, рэкламы, прыватызацыі, камерцыйнай дзейнасці па Беларусі і за яе межамі. Дарэчы, увесь комплекс паслуг аказваецца на аснове ліцэнзій, выдадзеных адпаведнымі дзяржаўнымі органамі. А нядаўна ўпершыню на Беларусі створана інфраструктура, дзякуючы якой кліент мае магчымасць карыстацца ўсім спектрам паслуг праз аднаго фінансавага кансультанта, знаёмага з яго праблемамі і зацікаўленага вынікам працы, гэта значыць, арганізаваць сістэму фінансавага планавання. Калі ж гаварыць аб укладанні грошай, мы прымаем сродкі ад юрыдычных асобаў, рэінвестуем іх, абараняючы ад інфляцыі, і ў дакладна ўстаноўлены тэрмін, пасля выгадных укладаў, забяспечваем іх мэтавае выкарыстанне. Гэта ўсё сёння. Калі ж гаварыць аб перспектыве -- пра яе я магу сказаць толькі тады, калі я зразумею, які дзяржаўны лад мы будуем. Калі гэта будзе капіталізм -- мы б скіраваліся на каштоўныя паперы на прыватным рынку, на фінансавыя аперацыі. Пры таталітарным рэжыме арыентаваліся б на працу ў банках і падрыхтоўку да яе. Калі ж мы будуем рыначны сацыялізм -- у мяне адно жаданне: зразумець, што гэта такое і, калі я гэта зразумею, вось тады і скажу пра адпаведны кірунак нашай дзейнасці.

Ведаючы, што гэты матэрыял будуць чытаць у асноўным беларусы замежжа, Наталля Шаўко дадае: "Беларусы ў свеце. Нас цікавяць сувязі з імі. І не толькі эканамічныя. Трэба зразумець і высветліць, чым яны могуць нам дапамагчы ў цяперашняй цяжкай сітуацыі. Канешне, буйных інвестыцый я не чакаю. Напачатку, на мой погляд, галоўнае -- гэта іх дапамога ў адраджэнні духу нашай нацыі. Так, адраджэнне духу кожнага чалавека, ягонай схільнасці да асабістай працы, да асабістага выжывання, да стаўлення да сябе як да адзінай істоты, якая можа выратаваць і сябе, і сваіх дзяцей, а ў выніку -- сваю Беларусь.

Беларусы Амерыкі, Аўстраліі, Англіі жывуць у тых краінах, дзе кожны чалавек павінен выжываць паасобку. І яны разумеюць, што ані дзяржава, ані прэзідэнт, ані парламент, ані ўрад, ані замежныя інвестыцыі -- ніхто ім не дапаможа, а кожны павінен дапамагчы сабе сам. Дапамагчы адчуць сябе нацыяй, адчуць і працаваць на яе карысць, а праца на карысць Радзімы ў нашых умовах -- гэта найперш праца, у якой трэба разлічваць, у першую чаргу, на сябе.

І канешне, мы з задавальненнем прынялі б канкрэтныя прапановы па супрацоўніцтву. Я веру, што прыйдзе такі час, калі нашы землякі змогуць вярнуцца на Беларусь і займацца бізнесам.

Калі ж гаварыць аб дабрачыннасці, то вядома, што ў нашых эканамічных умовах зарабляць грошы вельмі няпроста. Але фактычна ў многіх імпрэзах, у многіх мерапрыемствах, якія накіраваны на адраджэнне духоўнасці, гістарычнай памяці і самасвядомасці беларускай нацыі, ёсць і наш фінансавы ўклад.

І гэта так. Бо толькі ў вольнай незалежнай дзяржаве, сярод разняволеных духам людзей, якія асэнсавалі сваё месца на гэтай зямлі і адказнасць за яе, магчыма пабудаваць нармальнае жыццё, нармальныя ўмовы для любой чалавечай дзейнасці".

Мы згодныя са спадарыняй Наталляй. Нам усім неабходна хутчэйшае адраджэнне нашай Бацькаўшчыны. І вялікую ролю ў гэтым нялёгкім працэсе суджана адыграць такім людзям, як спадарыня Шаўко, бо менавіта з такімі дзелавымі высокаінтэлектуальнымі, адукаванымі і культурнымі людзьмі звязана будучыня нашай нацыі.

**Падрыхтавала**
**Ніна ПЕТУХОВА.**

## НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

# БАЦЬКА ЯКУЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Калі ў студзені 1881 года дваццацітрохгадовага народніка Эдуарда Карлавіча Пякарскага саслалі ў міжрэчча Таты і Алдана, ён яшчэ не ведаў, што ў гэтым краі ён знойдзе сваё прызванне. "А сродкаў да жыцця няма (...), -- пісаў Э.Пякарскі бацьку 22 лютага 1883 года. -- І калі б не якуты, я павінен быў бы прапасці з голаду". Давялося вучыцца хлебаробству, разводзіць жывёлу, будаваць юрту, запасацца на зіму палівам і лёдам для вытоплівання вады.

Э.Пякарскі нарадзіўся 13 кастрычніка 1858 года ў фальварку Пятровічы паблізу мястэчка Смілавічы (цяпер Чэрвеньскі раён Мінскай вобласці). Яго маці памерла рана. Дзіця спачатку выхоўвалася ў сям'і беларускага селяніна, потым у цёткі ў Мінску, у дваюраднага дзеда ў палескім маёнтку Барбараў. Жылося беднаму хлопчыку на правах "нахлебніка" нялёгка. У Мазырскай гімназіі, куды Эдуард неўзабаве паступіў, ён зарабляў на жыццё рэпетытарствам. Пазней Э.Пякарскі пераехаў вучыцца ў Таганрогскую гімназію і там звязаў сваё жыццё з рэвалюцыйна настроенай моладдзю.

Рэвалюцыйнай дзейнасці Э.Пякарскі не пакінуў і ў Чарнігаве, прыехаўшы туды вучыцца. Тут юнак уступіў у падпольны гурток навучэнцаў і вёў рэвалюцыйную прапаганду сярод мясцовых рамеснікаў, распаўсюджваў народніцкія газеты і забароненыя творы. Восенню 1877 года ён паступіў у Харкаўскі ветэрынарны інстытут. Калі пачаліся студэнцкія хваляванні, а за імі і арышты кіраўнікоў хваляванняў, Э.Пякарскі схаваўся ад праследаванняў паліцыі ў Тамбоўскай губерні. Завочна яго прыгаварылі да пяці гадоў ссылкі на Поўнач.

Праз некалькі месяцаў у Княжа-Багародскае валаснoе ўпраўленне Тамбоўскага павета прыехаў прымаць справы ў п'яніцы пісара Цапенкі новы пісар Іван Пякарскі (так стаў называць сябе былы харкаўскі студэнт, каб сваім імем не выдзяляцца сярод рускіх сялян). З канца 1878 года народнік быў членам рэвалюцыйнага таварыства "Зямля і воля". На Тамбоўшчыне ў гэты час было нямала такіх рэвалюцыянераў, як ён -- "валасных пісараў" і "фельчараў". Паліцыя высачыла падпольшчыка. Калі ў "Івана Кірылавіча" запатрабавалі пашпарт, ён вымушаны быў схавацца. Напярэдадні новага 1880 года яго арыштавалі ў Маскве. Мясцовы ваенна-акруговы суд прыгаварыў "дзяржаўнага злачынцу" Э.Пякарскага да пятнаццаці гадоў катаржных работ. Катаргу замянілі ссылкай на пасяленне "ў аддаленыя мясціны Сібіры з пазбаўленнем усіх правоў і маёмасці".

У лістападзе 1881 года Э.Пякарскага прывезлі ў 1-шы Ігідэйскі наслег Батурускага улуса, што знаходзіўся за 230 вёрст на паўночны ўсход ад Якуцка. Тут яму трэба было пражыць доўгія гады.

Мясцовыя жыхары дапамагалі нашаму земляку апрацоўваць невялікі ўчастак, дзе ён сеяў збожжа і саджаў бульбу. Пякарскі заняўся і агародніцтвам, стаў разводзіць жывёлу, хадзіў лавіць рыбу, паляваць на звяроў.

Прыстасавацца да мясцовых умоў "дзяржаўнаму злачынцу" дапамагала яго адданасць ідэям рэвалюцыянераў-народнікаў. "Я думаў, -- пісаў Пякарскі, -- што ўвесь якуцкі народ -- гэта ёсць частка расійскага народа, і я буду працягваць рабіць тое, што я рабіў у Расіі, г.зн. весці прапаганду".

Ссыльны рэвалюцыянер дапамагаў якутам складаць афіцыйныя прашэнні (гэтаму ён навучыўся на Тамбоўшчыне), весці судовыя працэсы, заступаўся за якутаў перад начальствам, дабіваўся ў судах рашэнняў заблытаных пытанняў на карысць беднякоў. Э.Пякарскі заваяваў сярод іх вялікі аўтарытэт.

Каб размаўляць з якутамі, нашаму земляку давялося вывучаць іх мову, запісваць якуцкія словы з рускім перакладам. Працаваць яму было нялёгка, не хапала паперы, не было дапаможнікаў і слоўнікаў. Аднак упартай працай ссыльны рэвалюцыянер дабіўся многага.

У газеце "Неделя" за 1885 год ён прачытаў паведамленне, быццам бы ў якуцкай мове маецца ўсяго тры тысячы слоў. Да 1887 года даследчык сабраў і растлумачыў ужо сем тысяч якуцкіх слоў, праз адзінаццаць год -- дваццаць тысяч, а да 1930 года -- дваццаць пяць тысяч слоў гэтай мовы. Многія якуты дапамагалі Э.Пякарскаму. Сярод іх былі свяшчэннік Д.Папоў, алансахут М.Андросава-Іонава, лінгвіст С.Ноўгарадаў, студэнты Г.Баішаў, А.Нікіфараў.

Працай Э.Пякарскага зацікавіўся Усходне-Сібірскі аддзел Геаграфічнага таварыства. Энтузіяст развіцця Сібіры золатапрамысловец А.Сібіракоў прапанаваў аддзелу даць грошы на друкаванне слоўніка. Калі падыходзіў да канца тэрмін ссылкі 2 мая 1894 года, Э.Пякарскі пісаў бацьку: "Раней сканчэння друкавання слоўніка мне няма чаго і думаць аб вяртанні на радзіму, калі нават і будзе атрыманы на тое дазвол, таму што нельга кідаць працу, на якую патрачана трынаццаць гадоў лепшай пары жыцця". Праз пяць гадоў у Якуцку, куды даследчык змог перасяліцца на той час, з'явіўся першы выпуск яго слоўніка. Каб пракарміцца, тут даводзілася працаваць у некалькіх месцах.

Набыты Э.Пякарскім вялікі вопыт вывучэння быту якутаў падштурхнуў кіраўнікоў экспедыцыі ў Прыаянскі край звярнуцца да вучонага з просьбай праводзіць падворны перапіс эвенкаў Прыаянскага краю, запісваць звесткі пра іх быт. Ён даў згоду і адплыў з Якуцка на параходзе 11 чэрвеня 1903 года. Праз два тыдні плавання па рэках Алдан і Мая ён прыбыў у маленькае сяленне Нелькан, а адсюль накіраваўся да Ахоцкага мора. Трэба было пераадолець хрыбет Джугджур.

Ветлівасць Э.Пякарскага выклікала да яго прыхільнасць жыхароў тайгі. Даследчык частаваў эвенкаў тытунём і чаем. Эвенкі расказвалі вучонаму пра аленегадоўлю, паляванне, рыбную лоўлю, перадавалі для музея рэчы са свайго ўжытку. Сабраўшы матэрыялы, Э.Пякарскі вярнуўся назад.

У 1905 годзе Акадэмія навук дабілася пераводу вучонага ў Пецярбург, каб ён змог там працягваць работу над слоўнікам. Цёпла развітвалася з Э.Пякарскім якуцкая інтэлігенцыя. У паднесеным яму адрасе выказвалася смелае пажаданне, "каб далейшая дзейнасць вучонага, што так удала супала з будучым абнаўленнем грамадскага і дзяржаўнага жыцця... вызваленнем ад сталёвых ланцугоў бюракратычнага самавольства, была такой жа плённай, як і раней".

І знаходзячыся ў сталіцы, якутазнавец не парываў сувязей са сваёй другой радзімай Якуціяй. Ён выдаў тры тамы "Узораў народнай літаратуры якутаў" на якуцкай мове, асобнымі выпускамі выходзіў капітальны "Слоўнік якуцкай мовы" з багатымі паралелямі з блізкіх моў і падрабязным тлумачэннем устарэлых слоў і з'яў быту. За гэтыя працы вучоны быў узнагароджаны залатымі медалямі Акадэміі навук і Рускага геаграфічнага таварыства.

Вучоны выступіў у краснаярскай газеце "Сибирские вести" з артыкулам "Значэнне якуцкай мовы ў школах". У ёй крытыкаваў губернатара і інспектара вучылішчаў Якуцкай вобласці, якія супрацьдзейнічалі адкрыццю школ з навучаннем на якуцкай мове: "Хіба можа чалавек, які назірае вакол сябе жыццё, жыве сярод жывога і здольнага народа, як якуты, сказаць, што "якуцкая мова мёртвая, за ёю няма мінулага і сучаснага"? Ці разумее пан інспектар, што ён дазваляе сабе сцвярджаць у афіцыйнай паперы? Называць мёртвай мову, на якой гавораць пагалоўна ўсё больш чым двухсоттысячнае насельніцтва Якуцкай вобласці, якая распаўсюджана за межы апошняй..."

У сваіх артыкулах Пякарскі асвятляў цяжкасці, якія перажываў якуцкі народ, патрабаваў рэарганізацыі судаводства ва улусах, папулярызаваў алонха, выступаў за неабходнасць друкавання газетных артыкулаў на якуцкай мове, дапамагаў атрымліваць шрыфты і абсталяванне для друкарні газеты "Якутский край" у Якуцку. Гэтым ён садзейнічаў развіццю якуцкай культуры і прыцягваў да праблем краю ўвагу шырокай рускай грамадскасці.

Пасля рэвалюцыі вучоны працягваў сваю нястомную работу па даследаванню якуцкай мовы, адшукваў для камісіі па вывучэнню Якуцкай АССР матэрыялы дарэвалюцыйных глебавых экспедыцый у Якуціі.

У канцы 1926 года грамадскасць Ленінграда і Якуціі адзначыла заканчэнне складання асноўнай часткі "Слоўніка якуцкай мовы". 29 лістапада 1926 года Пякарскі пісаў этнографу В.Іахельсону: "29 кастрычніка скончыў "бясконцы слоўнік" і падпісаў: "канец".

Грамадскасць краіны адзначыла заканчэнне складання "Слоўніка". У адрас юбіляра прыходзілі патокам віншавальныя тэлеграмы і пісьмы з Якуціі. А праўленне якуцкага зямляцтва ў Ленінградзе паднесла даследчыку паэтычна складзены адрас на якуцкай мове. У адрасе, між іншым, гаварылася: "Одубар Хаарылабыс (Эдуард Карлавіч)!.. Вы прыбылі, лічачыся злачынцам, у нашу аддаленую і няшчасную краіну, што было няшчасцем для вас і шчасцем для нас... Магчыма, што ваша слаўнае імя ў тыя аддаленыя будучыя часы, (...) ператворыцца ў родны для "сахалараў" (якутаў. -- **В.Г.**) светлы міф, як міф аб заступніку "сахаларскай мо-

**(Заканчэнне на 6-й стар.).**

Сяргей ПЯСЕЦКІ

# "КАХАНАК ВЯЛІКАЙ МЯДЗВЕДЗІЦЫ"




А ўначы, калі ў камеры гарыць лямпа і мы кладзёмся спаць на голыя нары, са шчылін у дошках і сьцен выпаўзаюць клапы. Гэтыя смокчуць заўзята, нібы крапіўкай сякуць усё цела. Асабліва яны надакучаюць новым вязьням.

Калі аднаго разу прачнуўся ноччу і расплюшчыў вочы, заўважыў, што Бзік сядзіць у камеры і неяк дзіўна прыглядаецца да сябраў, якія ляжалі на нарах. Зрабіў выгляд, што сьплю. Мой твар хаваўся ў сутоньні. Праз прыплюшчаныя павекі пачаў сачыць за ім. Бзік доўга, з увагай глядзеў на нас. Я прыкмеціў, што ў яго на каленях ляжыць ськінутая кашуля. У нейкі момант заўважыў, як вар'ят нахіліў галаву і, не перастаючы сачыць за камерай, зубамі надрываў каўнер кашулі. Гэта яшчэ больш зацікавіла мяне. Хлопец выняў з каўняра кавалак тонкага палатна. Акідваючы позіркам камеру, раскруціў яго. Я ўбачыў на ёй нейкія надпісы. Пэўны час Бзік учытваўся ў іх, а потым пачаў дзерці палатно зубамі. Праз некалькі хвілін трымаў у руках толькі шматкі нітак. Тады ён зьлез з нараў і ўкінуў усё гэта ў кубел.

Я зразумеў, што там было нешта значнае і што Бзік толькі прыкідваецца вар'ятам, а на самай справе ён разумнейшы за многіх тых, хто прымае яго за кранутага. У тую ноч я не заснуў аж да раніцы. Голад скруціў мне кішкі: "А што будзе далей? Як доўга я вытрываю?" -- думаў бесперапынку.

У сьне наведвалі мяне звычайныя для галодных мроі. Мне сьніліся не асаблівыя стравы, а тоўстыя лусты ржанога хлеба, вялікія кавалкі сала і мяса, місы гарачага супу, саганы, напоўненыя паранай бульбай, якая выбухае белымі клубамі. Змучаны, я абуджаўся, апухлы, і мяне яшчэ больш даймаў голад, яшчэ вастрэй адчуваў сваю няволю.

Спачатку мяне абвінавачвалі ў шпіянажы. Так падалі матэрыялы тыя, хто арыштаваў. Справу ж вёў Стафан Нядбальскі, паляк, які паходзіў з мястэчка Мір, разьмешчанага непадалёку ад Стоўбцаў. Гэта быў пульхны малакасос у карычневай гімнасьцёрцы і галіфэ. Я прыкмеціў, што ён вельмі саманадзейны. Дапытваў мяне па начах. Распытваў цэлымі гадзінамі. Ставіў "хітрыя" пытаньні-пасткі, якія, аднак, лёгка было прадбачыць і якія самі нярэдка дапамагалі арыштаванаму арыентавацца ў сітуацыі. Ён найбольш часта паўтараў наступны выраз:

-- Ну, кажы!.. Ну, кажы!.. Мы і самі даведаемся праўду!..

-- Што я павінен казаць? Я і кажу праўду!.. Хіба хочаце, каб ашукваў вас!..

Так звычайна адказваў на яго пытаньне.

Некалькі разоў мне рабілі вочныя стаўкі з рознымі асобамі. Некаторых я бачыў, бо сядзелі ў іншых камерах першага падвала ці ў другім падвале.

Потым увогуле перасталі дапытваць. Ідучы за парадай братоў Спландзінаў, я паклікаў "карнача"[1] і сказаў, каб паведамілі сьледчаму, Стафану Нядбальскаму, што ёсьць пільная справа. На наступны дзень увечары мяне выклікалі. У суправаджэньні двух чырвонаармейцаў увайшоў у кабінет, дзе дапытваў Нядбальскі.

-- Ну што?.. Адумаўся? -- запытаўся сьледчы. -- Добра. Гэта сама правільна! Бяры крэсла і сядай тут!

Ён паказаў на месца зьлева ад стала.

Заўважыў, што ў адсунутай шуфлядцы ляжыць наган.

"Падрыхтаваўся!" -- падумаў я.

-- Вазьмі папяросу! -- прамовіў Нядбальскі.

Я закурыў папяросу, і мне стала нядобра.

-- Ну, расказвай, -- рыхтуючы аркуш чыстай паперы, сказаў Нядбальскі.

Я пачаў даваць новыя прызнаньні. Расказаў яму гісторыю, якая збольшага паходзіла на праўду і якую я добра абдумаў... Нарадзіўся ў Вільні. Не маючы магчымасьці знайсьці працу, выехаў да сябра на памежжа. Ён прапанаваў хадзіць з кантрабандай за граніцу. Зрабілі некалькі рэйсаў. Пасьля сябра папаўся і зараз сядзіць у Навагрудку. Тады я перастаў хадзіць і жыў у яго маткі. Пасьля Новага года быў тры разы за мяжой з некалькімі хлопцамі. На трэці раз папаўся.

-- Куды хадзілі з таварам? -- запытаў Нядбальскі.

-- Я ня ведаю, дзе гэтая мяліна, машыніст вадзіў нас ноччу, і спалі заўсёды ў стадоле, не выходзячы зь яе днём. Таму ня ведаю, як выглядае хутар, дзе знаходзіцца і якое прозьвішча маюць гаспадары... Яду прыносіла ў стадолу нейкая старая жанчына. Была ў доўгім жоўтым кажуху. Таварам займаўся машыніст.

-- Мне здаецца, ты нешта хлюеш! -- прамовіў Нядбальскі.

-- Не хлушу, бо ведаю, што вас не аб'едзеш. Вы для гэтага занадта вопытны.

Нядбальскі ўсьміхнуўся, задумаўшы, праз хвіліну вымавіў:

-- А чаму прыйшоў на хутар Леаніды Бамбінскай? Яна ж таксама прымала кантрабандыстаў?

-- Я ня ведаю, ці прымала яна перамытнікаў, ці не. Я там заблудзіўся... Была моцная завея. Пагубляў сябраў. Усю ноч хадзіў і амаль не загінуў. Сьнінуў ношку, бо ўжо ня мог ісьці. Толькі пад раніцу ўбачыў нейкі хутар і зайшоў туды, каб запытаць пра дарогу.

Сьледчы з хвіліну разважаў. Пасьля, гледзячы мне ў вочы, хутка задаў некалькі пытаньняў, відавочна, каб мяне шакіраваць.

-- Кажы, толькі праўду! Перамытнікі ў Мінск ходзяць?

-- Не.

-- Ваша "пачка" хадзіла?

-- Не.

-- Ніколі?

-- Ніколі.

-- А навошта, калі гэта не было патрэбным, ты пытаўся пра дарогу да Мінска!.. Ну?..

-- Бо баяўся, каб гаспадыня не падумала, што іду з-за мяжы, і не паклікала людзей, каб арыштаваць мяне.

Праз нейкі час Нядбальскі вымавіў:

-- А чаму, калі цябе арыштавалі, казаў розныя глупствы: што прыйшоў у Саветы, каб тут жыць, і што ў Польшчы табе было кепска?.. Як?..

-- Бо баяўся, што мяне за перамытніцтва пасадзяць у астрог. А так думаў, што альбо дазволяць застацца тут, або перакінуць у Польшчу.

Нядбальскі доўга нешта запісваў, а потым зноў зьвярнуўся да мяне, пытаючы так, нібыта яго гэта не датычыла, аднак вочы былі хітравата прыплюшчаныя... Я адчуў пастку...

-- Колькі разоў быў за мяжой?..

-- Сёлета двойчы. За трэцім разам папаўся.

Доўгае маўчаньне. Сьледчы марудна запальвае папяросу.

-- Колькі грошай пры табе забралі?

-- Ня памятаю.

Нядбальскі вымае папяровы шматок з папкі і чытае:

-- 70 даляраў, 45 рублёў золатам і 18 000 польскіх марак. Так?

-- Так.

-- Колькі зарабляў за дарогу?

-- За ношку мне плацілі 15 рублёў.

-- Добра! Дык за дзьве ношкі трыццаць рублёў, а адкуль узяліся астатнія грошы? Ну, кажы?..

-- Летась у лістападзе мы зрабілі агранду на тавар. На маю долю дасталося 400 даляраў.

-- Што гэта такое -- агранда?

-- Несьлі ў Польшчу тавар і ўцяклі разам зь ім. А пасьля прадалі...

-- Які быў тавар?

-- Скуркі. Алтайскія вавёркі. Я меў 380 штук.

Нядбальскі зрабіў перапынак у допыце. Загадаў мне стаць каля сьцяны.

-- Сачыце за ім! -- кінуў чырвонаармейцам і выйшаў з кабінета.

Праз хвілін 20 вярнуўся.

-- Ведаеш Цьвіка? -- запытаўся ў мяне.

-- Ведаю. Гэта наш хлопец з Ракава.

-- А ён цябе пазнае?

-- А як жа?.. Пазнае. Бачыў мяне некалькі разоў.

Нядбальскі запісаў паказаньні ў пратакол і даў мне іх падпісаць.

-- Я яшчэ гэта праверу! -- вымавіў на заключэньне. І загадаў чырвонаармейцам адвесьці ў камеру.

Браты Спландзінавы чакалі мяне. Падрабязна расказаў ім, як прайшоў допыт.

-- Зараз усё будзе добра! -- прамовіў ён. -- Шпіянаж табе адшыюць напэўна!

-- Магчыма, праз пару дзён цябе разам з намі перавядуць у Допру[2]. Там будзе лепей. Там нашых хлопцаў шмат, -- прамовіў Мікола.

У гэтую ноч я доўга не засынаў. Было трохі весялей. Перад гэтым баяўся, каб мяне не асудзілі як шпіёна, за гэта, звычайна, прыгаворвалі да страты. А казаць праўду не хацелася з-за Лёні. Ведаў, што яе таксама арыштавалі. Са шматлікіх акалічнасьцяў справы, пра якія мяне распытвалі раней, зрабіў выснову, што супраць яе няма ніякіх доказаў.

## 3

"Двойка" -- гэта прасторная камера. У ёй два вялікія вакны. Калі ж стаць на падваконнік і выпрастаць угару рукі, то немагчыма дацягнуцца да верхняй часткі рамы. Да сьцен прымацавана 17 лежакоў. Днём яны падымаліся ўгару, тады ўтваралася шмат месца для хадзьбы. Пасярод камеры стаіць вялікі стол на казлах. У сьцяне ёсьць шафка для пасуды. Падлога бетанаваная. У правым куце камеры стаіць вялізная, абітая бляхай печка.

Нас тут сядзіць семнаццаць чалавек. Некалькі злодзеяў. Некалькі бандытаў. Некалькі сялян, якія маюць адну справу -- яны абвінавачваюцца ў забойстве. Ёсьць адзін чыгуначнік: украінец, з Палтаўшчыны. Яго прозьвішча Калбенка. Сядзіць за сьпекуляцыю. У службовым вагоне перавозіў рэчы "мяшэчнікаў".

І тут голад паклаў на ўсіх свой адбітак. Вязьні рухаюцца павольна, яны заспаныя, апатычныя. У некаторых апухлыя твары, у іншых -- ногі. Вошай і тут поўна.

Спачатку я адчуваў сябе як напалову вызвалены. Камера была сьветлая, паветра чыстае. Хадзіў на шпацыр. Гуляў зь іншымі вязьнямі самаробнымі картамі. Потым прызвычаіўся да ўсяго новага.

З дня на дзень сілы ў мяне меншалі: пачалі апухаць ногі. А за вокнамі, за мурамі вясна была ў росквіце. Сонечныя праменьні залівалі дзядзінец астрога. Некаторых вязьняў адпусьцілі. Іх месцы занялі новыя.

Мяне забіваў сум па свабодзе... Заўважыў, што арыштанты, якія часта сядзелі ў турмах, не смуткавалі ўвогуле. Яны заўсёды ўмелі знайсьці сабе нейкі занятак: гулялі ў карты, у рамса, ці размаўлялі пра розныя рэчы. Гэтыя гутаркі звычайна круціліся каля некалькіх галоўных тэм: ежы, "работы", жанчын, судовых спраў, турэмнай адміністрацыі. Гэтыя размовы мяне даставалі. Страшэнна сумаваў па волі і худзеў усё больш... Звычайна садзіўся на падваконнік і гадзінамі глядзеў у далёкі нябесны блакіт. Пра што я тады думаў?.. Ня ведаю... Забываўся тады пра ўсё. Праз пэўны час мяне вяртала да жыцьця нейкая звада ці песьня Жабы.

Неяк раз да мяне падышоў Бласт. Гэта быў смаленскі злодзей.

-- Ты, хлопец, так не задумвайся... "зьмінінгіцішся"!.. У вакно таксама не глядзі! Сабака іх дзяры!.. А галоўнае, ня думай, бо зьвіхнешся!..

-- Што ж рабіць?

-- Гуляй у карты!.. Сьпявай!.. Рабі што-небудзь... Я некалі таксама... Гэта нічога...

Увечары, пасьля "паверкі", мы апускалі лежакі і клаліся спаць.

-- Ну, тры званкі да "пайкі"! -- казаў хто-небудзь зь вязьняў.

У гэты момант усе праглыналі сьліну, падумаўшы пра ранішнюю двухсотграмовую порцыю дрэннага, кепска выпечанага хлеба. Скарынку мы адзялялі асобна, а сыры мякіш лыжкай накладалі на яе. Гэта заўсёды нагадвала мне пірожнае альбо вафельнае марожанае. Найбольш хутка для мяне мінала ноч. Адразу засынаў цяжкім сном, поўным трывожных і галодных мрояў. Прачнуўся, першае адчуваньне: голад, першая думка: два званкі да пайкі!

Калі атрымлівалі сваю порцыю хлеба, у кожнага з нас трэсліся рукі. Можна было ў адзін момант зьесьці сваю долю, але кожны не сьпяшаючыся, павольна адкусваў ад хлеба невялічкія кавалачкі. Не марнавалася ніводная крошка, зрэшты, і крошак не было, бо хлеб заўсёды быў недапечаны. Пасьля сьняданьня ўсе думкі віліся вакол абеду... У чаканьні абеду праходзіла шмат доўгіх, нудных гадзін. Нарэшце мы набіраем у вялікія "бачкі" рэдкае з пахам варыва -- суп з сушаных буракоў ці памерзлай бульбы. Адзін бачок на шэсьць чалавек. Пачыналі есьці, а дакладней, піць з лыжак, рэдкую, мутную гарачую пахлёбку. Абпякалі сабе вусны і горла, аднак зьядалі ўсё вельмі хутка. На нейкі час цела ахутвала прыемным цяплом і прыходзіла ілюзія поўнай сытасьці. А праз квадру гадзіны зьяўляліся яшчэ мацнейшыя патрабаваньні страўніка: есьці! есьці! есьці!.. Страўнік нельга было ашукаць. Вячэра была яшчэ горшая. Як казалі арыштанты: "Даюць піць і папіць!"

Аднойчы, у дзень наведваньня, а дзесятай гадзіне, мяне выклікалі ў калідор. Гэта здарылася ў канцы красавіка. Павялі ў пакой для сустрэч. Там стаяла шмат людзей мізэрнага выгляду. Доўгі пакой быў пасярод разгароджаны на драцяныя перагародкі, паміж якімі знаходзіліся наведвальнікі.

Калі пачаліся размовы, пакой напоўніўся плачам, лямантам, крыкам, у якім цяжка было што-небудзь пачуць. Падышоўшы да сеткі, стараўся разгледзець там кагосьці са знаёмых. Думалася, што нехта з ракаўскіх хлопцаў пры дапамозе сваякоў ці знаёмых у Мінску атрымаў дазвол на сустрэчу са мной. Адразу ўбачыў радасную ўсьмешку і вясёлыя вочы Лёні. Прывітаўся зь ёй. Стараючыся перакрычаць іншых, пачаў "размаўляць":

-- Што ў цябе чуваць? -- запытаўся ў Лёні.

-- Мяне выпусьцілі!

-- Ты зусім вольная?

-- Я дала "расьпіску", што не пакіну месца жыхарства і зьяўлюся на кожнае пажаданьне ўлад...

-- Дорага каштавала?

-- Так... Але нічога... Я не зьбяднела...

-- Ты добра выглядаеш!

-- Але ты зблажэў!

Бездапаможна разьвёўшы рукамі, вымавіў:

-- Няма ад чаго таўсьцець: штодня 200 грамаў хлеба.

-- Прывезла табе перадачу... Буду прыязджаць кожны тыдзень... На кожны кірмаш...

-- Дзякуй табе.

-- Магчыма, і ты хутка вызвалішся?

-- Ня ведаю. Магу атрымаць некалькі гадоў Допра.

-- Я чула, што Першага мая будзе аб'яўлена амністыя.

Спатканьне кончылася хутка. Адведкі Лёні надалі мне сілы. Зрабілася весялей. Я не адчуваў сябе такім бездапаможным, забытым. Апрача таго, пачаў лепей харчавацца, бо Лёня ведала, які голад пануе ў турме, і прывезла мне шмат хлеба, сухароў, сала, сыроў.

Праз тыдзень зноў атрымаў перадачу ад Лёні, аднак яе не пабачыў. Магчыма, што ня мела часу, а можа, і не далі дазволу на спатканьне.

На пачатку траўня прысудам Рэўтрыбунала мяне прыгаварылі за перамытніцтва да трох гадоў высылкі ў Ніжнегародскую губерню. Мае грошы канфіскавалі. Я прадбачыў такі вырак і таму ня быў зьдзіўлены. Нават хацеў ехаць у высылку, чым адбываць пакараньне ў Допры. Вырашыў пры першай магчымасьці зьбегчы з месца высылкі.

Пасьля суда Лёня зноў адведала мяне. Сказала, што будзе матэрыяльна падтрымліваць мяне, а калі зьявіцца вольны час, то адведае і там. Прасіла, каб часта пісаў лісты. Адзначыла, што зараз я выглядаю нашмат лепей, чым раней. Сапраўды, адчуваў сябе значна здаравейшым, чым дагэтуль. Пухліна спала з ног... Найгоршая хвароба -- гэта голад. А найлепшыя лекі ад яго -- гэта ежа... абы толькі каб не запозна.

У камеры хлопцы кажуць, што мяне могуць неўзабаве перавезьці этапамі на месца высылкі. Даюць розныя практычныя парады. Кажуць, каб уцякаў зь цягніка па дарозе. Пра гэта думаю зараз увесь час.

У сярэдзіне мая мне загадалі сабраць свае рэчы і адвялі ў канцылярыю. Каля брамы заўважыў эскорт: восем салдат і малодшага афіцэра з трыма трохкутнікамі на рукаве.

Арыштаваных было шэсьць. Адзін у Смаленск. Трое ў Маскву і двое да Ніжняга Ноўгарада. Першы этап быў у Смаленску.

[1] Карнач -- каравульны начальнік, начальнік аховы.

[2] Допра -- дом прымусовых работ.

Працяг.
Пачатак у №№ 29—41.

Адзін з добра інфармаваных паўстанцаў расказваў пасля на следстве пра сваю сустрэчу на пачатку красавіка з галоўнымі кіраўнікамі паўстання на Міншчыне Б. Свентаржэцкім (камісар) і С. Ляскоўскім (вайсковы арганізатар): "Свенторжецкий сказал, что он виделся с Владиславом Машевским, который назначен повятовым начальником Слуцкого уезда, что он обещал приготовить восстание в своем уезде, с которым намерен перебраться в Игуменский уезд на соединение с ним, и что тогда он, Свенторжецкий, передаст ему звание минского воеводы, так как Машевский весьма дельный человек, но пока удерживает это звание при себе, боясь, чтобы Машевский не был разбит раньше соединения, потому что переход для его партии будет очень труден..."

Так яно і здарылася. Невялікі (50--100 чалавек) атрад Машэўскага сфарміраваўся ў аколіцах вёскі Галынка (цяпер Клецкі раён) з дапамогай удзельніка арганізацыі -- міравога пасрэдніка Вендорфа. Самую актыўную ролю адыгрываў, трэба думаць, Фелікс Клюкоўскі, які з'явіўся сюды, як мы цяпер ведаем, пасля 21 сакавіка. На фурманках праз Слуцк і Грэск паўстанцы рушылі ў Ігуменскі павет на злучэнне з буйным баяздольным атрадам С. Ляскоўскага і Б. Свентаржэцкага. Па дарозе ссякалі тэлеграфныя слупы і рвалі дрот на Варшаўскай шашы, забралі 40 стрэльбаў у маёнтку князя Радзівіла. Праз два дні 21 красавіка атрад спыніўся на адпачынак каля вёскі Азярцы на ўскраіне Ігуменскага павета (цяпер у Гацукоўскім сельсавеце Слуцкага раёна). Напад карнікаў пад камандай падпалкоўніка Драгапулы быў нечаканым, што і вырашыла вынікі бою. Паўстанцы былі ўшчэнт разбітыя. У ліку першых загінуў Машэўскі і атрымаў сваю смяротную рану Клюкоўскі. В. Кашчыц узнёсла называе іх "новымі спартанцамі", якія аддалі сваё жыццё, каб выратаваць іншых.

А мы давайце пагартаем архіўныя выпіскі. Агульную ацэнку атрада і яго разгрому знаходзім у рэляцыі мінскага губернскага жандарскага штабафіцэра Рэйхарта ў Пецярбург ад 30 красавіка 1863 года (Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі): "О разбитии подполковником Великолуцкого пехотного полка Драгопулло 21 апреля при деревне Озерице (яшчэ адзін варыянт назвы. -- **Г.К.**) шайки мятежников доставлены слуцким военным начальником следующие подробности: шайка эта числом до 100 человек (В. Кошчыц называе ўдвая меншую лічбу. -- **Г.К.**) была сформирована мировым посредником Вендорфом и, как сам не сведущий в военном деле, состояла под начальством отставного артиллерии капитана Машевского, которого первая пуля наших стрелков повалила на месте. Смерть начальника и других около его при начале дела навела на мятежников страх, так что, не думая далее защищаться, искали спасения бегством, но меньшей части удалось уйти -- трое убито на месте, 14 ранено, 35 взято в плен. С нашей стороны убит казак и помер от ран горнист, да убита лошадь под казаком. Раненые и пленные доставлены в Слуцк. При том взято у мятежников: весь обоз, 73 ружья, пистолеты, сабли, косы, пороху до двух пудов и других разных военных снарядов".

Паўстанцкая газета "Вядомосьці о повстаню на Літве" ў N 5 ад 12 мая 1863 года (новага стылю) моцна прыхарашыла вынікі бою на карысць паўстанцаў: "У Слуцкім павеце атрад пад камандай Машэўскага, вымушаны прайсці значны бязлесны абшар краю, каля Азяранаў 3 мая быў атакаваны значнымі маскоўскімі сіламі. Страты Масквы і тут куды значнейшыя -- забіта 12, ранена 30; у нас загінула 5, але ў гэтым ліку незабыўнай памяці Машэўскі, мужны жаўнер, высакародны грамадзянін. Раненых нашых 16, апрача таго схоплена 24, пераважна бяззбройных, што спакойна сядзелі дома".

Паўстанцкая газета яўна старалася згладзіць уражанне ад паражэння -- наўрад ці ў карнікаў былі такія вялікія страты. У сапраўднасці вядома, што пасля бою 21 красавіка паўстанне ў Слуцкім павеце так і не здолела ўзнавіцца. І яшчэ дзеля гістарычнай праўды адзначым, што сяляне Міншчыны далёка не заўсёды спрыялі паўстанцам. Многія шчыра бачылі ў іх бунтаўшчыкоў супраць бацюхны-цара і паводзілі сябе адпаведна. Вось і на Слуцкі атрад пад Азярцамі навёў карнікаў мясцовы селянін Міна Бурак. Праз некаторы час яго ў адплату павесілі паўстанцы другога атрада, які прыйшоў сюды з Мінскага павета. У сваю чаргу, царскія ўлады абвінавацілі ў хаўрусніцтве з паўстанцамі лапцюжную шляхту недалёкай аколіцы Старая Гута -- таму што "в июне месяце около этой деревни был взят мятежниками находившийся при смоляном заводе крестьянин деревни Озерцов Мина Бурак..." Улады пагражалі нават выселіць жыхароў Старай Гуты ў Сібір. Словам, як пры кожным буйным грамадскім катаклізме, завязваліся вельмі складаныя, драматычныя вузлы, якія часам цяжка было і разблытаць.

Вернемся да героя нашага нарыса. Дык вось, у выніку нашага даследавання высветлілася, што Фелікс Клюкоўскі -- паслядоўнік Каліноўскага, актыўны ўдзельнік кіеўскага і мінскага падполля напярэдадні паўстання, адзін з кіраўнікоў узброенага выступлення на Случчыне (Клецкі, Капыльскі, Слуцкі раёны) -- памёр ад ранаў у слуцкім шпіталі паміж 21 красавіка і 14 мая 1863 года. Больш дакладная дата, як і месца пахавання, -- пакуль невядомыя.

Яго браты Канстанцін і Лаўрын гэтаксама ж актыўна ўдзельнічалі ва ўзброеным выступленні на роднай Наваградчыне. Належалі яны да паўстанцкай "партыі", якая фарміравалася [illegible] кіраўніцтвам адстаўнога ш[illegible] капітана Шалевіча (удзельнік пецярбургскай рэвалюцыйнай арганізацыі) і былі галоўнымі паплечнікамі камандзіра. Падчас аднаго з вобыскаў у Наваградку на пачатку мая 1863 [illegible] ў рукі ўладаў трапіў спіс не[illegible] 44 падазроных асобаў, мабыць, паўстанцаў. Пачатак спіса наступны: "1. Шалевіч Карл, 2. Клюкоўскі Кастанцін, 3. Клюкоўскі Лаўрын..." Як бачым, той, хто складаў спіс, паставіў Клюкоўскіх адразу за камандзірам. Але гэты спіс не быў далучаны да справы Клюкоўскіх і Шалевіча і падчас следства над імі не ўспамінаўся. Ды, уласна кажучы, матэрыялу тут і без таго цалкам хапала, "склад злачынства" быў, што называецца, у наяўнасці. На допытах высветлілася, што Шалевіч накіраваўся на зборны пункт у Каўпеніцу 4 красавіка, узяўшы з сабой зброю, падзорную трубу і двух дабраахвотнікаў -- сыноў мясцовага уніяцкага (так у дакументах) святара Давідовіча. У Каўпеніцы Шалевіча і яго спадарожнікаў ужо чакалі браты Клюкоўскія. У той жа дзень выступілі лесам у напрамку Нёмана. За Нёманам аб'ядналіся з другой наваградскай "партыяй" (пад кіраўніцтвам ксяндза Лашкевіча і студэнта Пуслоўскага). 7 красавіка аб'яднаны атрад быў разбіты. Клюкоўскія разам з Шалевічам і Пуслоўскім апынуліся ў палоне. Як вядома, Пуслоўскі паводле выраку ваеннага суда быў у Наваградку расстраляны (пра гэта я пісаў у кнізе "Радаводнае дрэва"). Шалевічу і Клюкоўскім пашанцавала -- яны настойвалі на версіі, што нібыта кінулі зброю яшчэ да бою. Цэлы год адседзелі небаракі ў Наваградку за кратамі, чакалі горшага, асабліва былы вайсковец Шалевіч, які прымаў у свой час прысягу на вернасць гасудару імператару. Нарэшце, 13 красавіка 1864 года, палявы аўдытарыят у Вільні зацвердзіў вырак ваеннага суда: Шалевічу 6 гадоў катаргі, Клюкоўскія ссылаліся на жыхарства "в более отдаленные места Сибири".

Далейшы лёс іх невядомы. У Шалевіча, як відаць з дакументаў, асталася на радзіме маладая жонка і трое малых дзяцей, якім казна выплачвала па 20 рублёў утрымання ў год.

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**





**Фальклорнае свята "А гармонік грае, грае" прайшло на старажытнай тураўскай зямлі. У ім прынялі ўдзел лепшыя фальклорныя калектывы Жыткавіцкага раёна. Прыехалі на свята і госці з Мінска: дзіцячы ансамбль "Дударыкі", нацыянальны фальклорны ансамбль "Вячоркі".**

**Самым захапляючым і масавым відовішчам на свяце стаў конкурс гарманістаў. Толькі ў вёсцы Пагост, адкуль і пачалося свята, сваіх гарманістаў 20 чалавек. Усе яны прынялі ўдзел у конкурсе. Завяршылася свята вялікім канцэртам на цэнтральнай плошчы Жыткавічаў.**

**НА ЗДЫМКАХ: гарманісты вёскі Пагост; салістка нацыянальнага фальклорнага ансамбля "Вячоркі" Тамара ЛІХАДЗІЕЎСКАЯ.**

**Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ.**

*ШТО МЫ СТРАЦІЛІ*

# АБ ЛЁСЕ КАШТОЎНАСЦЯЎ ГОМЕЛЬСКАГА ПАЛАЦА

**II**

Другі этап накаплення каштоўнасцяў у Гомельскім палацы звязаны з ураджэнцам Палтавы князем Варшаўскім, графам Эрыванскім і адначасова расійскім генерал-фельдмаршалам Іванам Фёдаравічам Паскевічам, які набыў Гомельскі палац ад нашчадкаў Румянцавых у 1834 годзе.

А праз чатыры гады імператар Мікалай І падараваў яму 1 студзеня 1836 года частку Гомеля з землямі, што прылягалі да горада.

Іван Паскевіч быў адукаваным чалавекам, і ён таксама, як і Румянцаў, сабраў у сваім Гомельскім палацы унікальную і каштоўную калекцыю, галоўным чынам, твораў мастацтва, сярод якіх былі дзесяткі мармуровых статуй і бюстаў работы старажытнагрэчаскіх скульптараў, італьянскіх і французскіх. Пакоі палаца былі абстаўлены калекцыйнай найкаштоўнейшай мэбляй і беламармуровымі німфамі, пазалочанымі бронзавымі падсвечнікамі; настольнымі і камінными гадзіннікамі вядомых заходнееўрапейскіх і расійскіх фірм; унікальнымі фарфоравымі вазамі і дробнай пластыкай, вырабленымі ў розных краінах свету, у тым ліку і майстрамі беларускімі. Сцены палаца ўпрыгожвала каштоўная мастацкая зброя, выробленая на Блізкім Усходзе, Каўказе і ў Іране, а таксама карціны заходнееўрапейскіх мастакоў, у тым ліку венецыянскага жывапісца Каналета і добрыя копіі з карцін Ван Дэйка. Была ў яго і карцінная галерэя. Упрыгажэннем палаца з'яўлялася і палацавая царква, у іканастасе якой было шмат абразоў, пісаных беларускімі і рускімі майстрамі.

Захапленне калекцыяніраваннем перадалося і яго сыну Фёдару Паскевічу.

У І-ю сусветную вайну і ў 1918 годзе, пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, каштоўнасці палаца яшчэ знаходзіліся ў ім. Іх не разрабавалі нават немцы ў час акупацыі горада. Немцы ў гэты час выставілі вакол палаца ахову, каб не адбылося стыхійных рабаванняў палаца.

Такім чынам, да сакавіка 1919 года ў Гомельскім палацы знаходзіліся значныя зборы карцін рускіх і замежных мастакоў, калекцыі заходнееўрапейскай і беларускай мэблі, габеленаў, фарфору, бронзы, фаянсу і самая вялікая ў Беларусі калекцыя касцей мамантаў, бібліятэка з 20 тысяч кніг, нумізматычны збор з манет XYI--XIX стагоддзяў, беларуская этнаграфічная калекцыя помнікаў XVIII--XIX стагоддзяў. Усе каштоўнасці Паскевічаў, што знаходзіліся ў Гомельскім палацы, пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі былі нацыяналізаваны. Але бяда над каштоўнасцямі Гомельскага палаца навісла ў час сакавіцкага паўстання 1919 года чырвонаармейскіх палкоў пад кіраўніцтвам былога афіцэра царскай арміі Стракапытава. Салдаты захапілі палац і ўсталявалі там тэлефонны вузел і пункт назірання за непрыяцелем. У выніку артылерыйскага абстрэлу палац загарэўся. Але яшчэ да абстрэлу ў Гомель прыслалі з Масквы эмісара В.Пашуканіса, які са сваімі людзьмі вынес з ужо палаючага палаца карціны, гравюры, сярэбраныя і залатыя творы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, зброю, кнігі, рукапісы і іншае.

Самыя каштоўныя рэчы Пашуканіс вывез у сакавіку 1919 года ў Маскву, а менш значныя перадаў мясцовым уладам. На аснове менш значных твораў Гомельскага палаца Паскевічаў быў адкрыты 7 лістапада 1919 года Гомельскі музей. Маскоўскія ж эксперты высока ацанілі прывезеную Пашуканісам гомельскую калекцыю, залічыўшы яе да шасцёркі найбольш значных з эвакуіраваных у гэты час у Маскву. На жаль, частка гомельскіх каштоўнасцяў трапіла ва ўстановы і прыватныя кватэры масквічоў і пецярбуржцаў. Але справаздача самога Пашуканіса на камісіі музея 31 жніўня 1919 года сведчыць: "Скарбы палаца -- каля ста пудоў золата і серабра ў манетах, каштоўнасцях, вырабах прыкладнога мастацтва, у радавых сервізах, у непаўторных мастацкіх творах былі вывезены ў Маскву і здадзены ў гістарычны музей".

Ды на гэтым не скончылася знікненне каштоўнасцяў Гомельскага палаца.

Перададзеная Пашуканісам мясцовым уладам частка каштоўнасцяў налічвала ў Гомельскім музеі 7 540 экспанатаў, сярод іх знаходзіліся скульптуры заходнееўрапейскіх майстроў Рауха, Кановы, Трэсконі, Тарвальдсэна, карціны мастакоў Сухадольскіх, Машкова, Залескага і інш. Частку з іх эвакуіравалі ў 1941 годзе ў музей Урупінска, пазней у Валгаградскі музей, адкуль пасля 1945 года вярнулася ў Гомель толькі частка. 100 экспанатаў Валгаградскі музей не вярнуў, частка экспанатаў была разрабавана ў віхуры другой сусветнай вайны. Цяпер у Гомельскім абласным краязнаўчым музеі захоўваецца толькі крыха ад тых вялізных каштоўных збораў, сабраных калісьці ў Гомельскім палацы П.Румянцавым і Паскевічамі. Асноўная частка каштоўнасцяў трапіла ў Маскву (у Дзяржаўны гістарычны музей, у Расійскую дзяржаўную бібліятэку), асобныя творы трапілі ў С.-Пецярбург. Яны знаходзяцца ў Эрмітажы, у былым Музеі этнаграфіі народаў СССР. А 100 твораў яшчэ трымае Валгаградскі музей. Такі вось лёс каштоўнасцяў Гомельскага палаца.

**Мая ЯНІЦКАЯ.**

**Заканчэнне. Пачатак у № 41.**

## НА НІЦЯХ БЕЛАЙ ПАВУЦІНЫ...

Фотарэпартаж Віктара СТАВЕРА.







*СПОРТ*

### РАЎНАВАГА...

Паўфінальныя матчы першынства свету па міжнародных шашках у самым разгары. Нас хвалюе, у першую чаргу, сустрэча мінчаніна Аляксандра Балякіна з масквічом Аляксандрам Шварцманам. Пасля першага тура ў іх раўнавага -- 1:1. Цяпер саапернікі пераедуць з Расіі ў Галандыю, дзе працягнуць барацьбу.

### СТАЎ ПРЫЗЁРАМ

У Мінску прайшоў міжнародны турнір па хуткіх шахматах сярод інвалідаў. Перамога дасталася расіяніну В. Бандарэнку. Трэцім прызёрам стаў В. Кулакоў з Асіповічаў (Магілёўская вобласць).

### ЗДЗІВІЛІ ДЫК ЗДЗІВІЛІ

Такога і не чакалі. Шасцёра прадстаўнікоў Беларусі, якія прынялі ўдзел у першынстве Еўропы па радыётэлеграфіі, што праходзіла ў Венгрыі, заваявалі шаснаццаць медалёў: дзевяць залатых, чатыры сярэбраныя і тры бронзавыя. Асабліва вызначыліся Ірына Цяцерская і Андрэй Біндасаў. Гэтаму мы рады таму, што на тэхнічныя віды спорту ў рэспубліцы на сёння асаблівай увагі адпаведныя службы не звяртаюць, не аказваюць патрэбнай фінансавай падтрымкі. І тым не менш..

### НЕ ЗДАЁМ ПАЗІЦЫІ

У марафонскім бегу беларускія легкаатлеты былі моцнымі заўжды. Вось і на гэты раз Уладзімір Котаў стаў трэцім прызёрам на спаборніцтвах, што прайшлі ў Амерыцы.

### ГУРТУЙМАСЯ, ПРЫХІЛЬНІКІ КОЛАСА!

**Новая грамадская арганізацыя Фонд Якуба Коласа мае на мэце аб'яднанне ўсіх, хто гатовы працаваць дзеля ўшанавання імя народнага песняра Беларусі.**

**У нашым фондзе мы рады бачыць тых, хто неабыякавы да нашай культуры, яе традыцый, да творчай спадчыны Якуба Коласа, хто любіць і памнажае нацыянальныя здабыткі свайго народа.**

**Фонд аб'ядноўвае не толькі тых прыхільнікаў Якуба Коласа, што жывуць на роднай зямлі, але і тых, хто апынуўся ў іншых месцах жыхарства, у блізкім і далёкім замежжы.**

**Толькі разам, грамадой, мы можам шмат зрабіць, каб багатая творчая спадчына народнага песняра жыла, а цудоўныя, непаўторныя мясціны, звязаныя з імем Якуба Коласа, захаваліся, былі канчаткова даведзены да ладу, набылі статус запаведніка і сталі жаданым месцам наведання шматлікіх людзей, гонарам беларускай нацыі.**

**Запрашаем усіх жадаючых прыняць удзел ва ўстаноўчым сходзе фонду, які мае адбыцца ў лістападзе 1995 года.**

**ІНІЦЫЯТЫЎНАЯ ГРУПА.**

*Наш адрас: 220012, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 66а, Музей Я. Коласа, тэлефон 00375 (172) 32-35-53.*

*МОЎНЫЯ СКАРБЫ*

## СЛОЎЦЫ З АДНАЕ ВАНДРОЎКІ

Экспедыцыя наша была зусім не за слоўцамі. Збіралі матэрыял для альбома "Гістарычныя сядзібы Беларусі". І, канешне, гутарылі з людзьмі. Пра рознае. Пра побыт таксама, і пра характар жыцця, пра тое, як і з чым у жыццё ўваходзілі, чым суправаджалі будзённыя дні, святочныя дні. Не спяшаліся. Слухалі людзей у мястэчках, слухалі яшчэ больш уважліва ў глухіх вёсачках. І як узнагароду быццам атрымлівалі, калі да вушэй даносілася яркае, прывабнае слоўца. Калі знаёмае раптам агучвалася ў нязвыклым кантэксце.

Сапраўдным святам слова падалася адна з сустрэч на Мастоўшчыне. У вёсцы Багатырэвічы пазнаёміліся з Антонам Капцэўскім. Год нараджэння яго -- 1906-ты. Чалавек пры светлым розуме, пры сіле, якая можа яшчэ быць у гэтыя гады. Расказвае пра ранейшае жыццё-быццё. Распытваем пра лёс старых гаспадароў колішняга палаца-прыгажуна, колішняй адметнай сядзібы. Антон згадвае прозвішчы. А як даходзіць бліжэй да Саветаў, да 1939 года, да месяцаў бязладдзя, то заўважае:

-- Людзі пайшлі гуляць, пайшлі банды...

Заўважыўшы неразуменне, робіць паўзу. А ў адказ на запыт, што ж значыць гуляць, чаму слоўца гэтае ў кантэксце з бандамі, вытлумачвае:

-- Забіваць, значыць, пайшлі... Альбо па-нашаму -- гуляць...

Антон Капцэўскі здзіўляе і іншым, узбагачае нас беларускім альбо польска-беларускім скарыстаннем чужаземнага, здавалася б, вельмі далёкага слоўца.

-- ... Зірнуў я, а на прэзенце якраз коннікі і едуць...

-- ???

-- Навідавоку, перад вачыма самымі, -- патлумачвае "прэзент" наш субяседнік.

А я ўжо пасля экспедыцыі зазіраю ў "Слоўнік замежных слоў". "Прэзент (фр. present) -- падарунак, паднашэнне". Ці: "Прэзентабельны (фр. presentable) -- прадстаўнічы, відны". В вось у Багатырэвічах, што ў Мастоўскім раёне, прэзентацыя -- прадстаўленне бліжняга відарыса, тых дзей, што адбываюцца побач.

Паблізу Багатырэвічаў ёсць дзіўная наднёманская вёска Міневічы. Чым яна, якімі дзецьмі-гадаванцамі сваімі знакамітая?.. Сярод іншых адметнасцяў і такая: у перадваенныя гады ў Міневічах жыў і працаваў заходнебеларускі паэт Міхась Явар (сапраўднае прозвішча -- Карась). Па сённяшні дзень засталася і яго хата. Пытаемся пра акалічнасці жыцця Міхася Явара. Расказваюць:

-- Працаваў на гаспадарцы. Хварэў на беркулёз (трэба разумець -- на туберкулёз)... Рыбу лупіў...

Апошняе патрабуе тлумачэння.

"Рыбу лупіў" -- значыць, лавіў. Быў, аказваецца, Міхась Явар заядлым рыбаком. Ды і жыццё вымагала. А мо і ў "лупінні рыбы" ў Нёмане паўнаводным сялянскі паэт знаходзіў лекі для душы.

З тае ж вандроўкі запала і цёплае слоўца. Запісаў у ваколіцах Шчучына. У вёсцы Тапілішкі пытаемся пра старыя жорны, пра тое, ці ёсць у каго гарнец, сявенька. Пажылая жанчына адказвае:

... -- Нядаўна тут жывём. Гадоў васемнаццаць, як купілі гэтую хату. Усё ў старым месцы засталося. А тут анічагаюткі няма. Анічагаюткі...

Так лагодна, ціхмяна, ласкава і прагаварыла:

-- Анічагаюткі...

Шмат руінаў, шмат бязладдзя пабачылі мы, вышукваючы старонкі для альбома "Гістарычныя сядзібы Беларусі". Але ж багатая наша Беларусь і на людзей, багатая на трапяткое жывое слова.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак.5504. Падпісана да друку 30.10.1995 г.